


# НАВІНЫ АДРАДЖЭНЬНЯ

3'92
23 студзеня

Выдаецца са сьнежня 1988.
Кошт 60 кап.

НАВІНЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»


РУХ

## БЕЛАРУСКІЯ САЦЫЯЛЬ - ДЭМАКРАТЫ СПРАБУЮЦЬ ПЕРАНЯЦЬ ІНІЦЫЯТЫВУ Ў БНФ

*18 студзеня пленум Беларускай сацыяль-дэмакратычнай Грамады прыняў пастанову пра стварэньне грамадзка-палітычнага блёку «Новая Беларусь», які мусіць аб'яднаць усе дэмакратычныя сілы Рэспублікі на грунце абароны сувэрэнітэту. Ідэя новага блёку знайшла падтрымку ва ўплывовых урадавых колах, і, найхутчэй, будзе прывітаная экс-камуністамі. Фронт пастаўлены перад пэрспэктываю адыходу на пазыцыі правага радыкалізму.*



Як вядома, парлямэнцкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту выступіла зь ініцыятываю правядзеньня рэфэрэндуму аб датэрміновай адстаўцы Вярхоўнага Савету й арганізацыі новых выбараў паводле законапраекту аб выбарах, які быў падрыхтаваны БНФ. Гэтая прапанова Фронту была адразу-ж падтрыманая ўсімі палітычнымі партыямі Рэспублікі, што адлюстравалася ў супольнай заяве ад 11 студзеня гэтага году.

Выключэньнем стала толькі Беларуская сацыяль-дэмакратычная Грамада, прадстаўнікі якое прынцыпова не згадзіліся зь ідэяй рэфэрэндуму, маўляў, працэс зьмены парлямэнту зойме даволі доўгі час, на які Рэспубліка застанецца ў рукох пракамуністычнага Савету міністраў, акрамя таго ў выніку новых выбараў да ўлады могуць прыйсьці палітыкі кшталту Жырыноўскага. Было гэтаксама заяўлена, што пытаньне ўдзелу або няўдзелу Грамады ў падрыхтоўцы да рэфэрэндуму ёсьць кампэтэнцый Цэнтральнай рады партыі. Найболей актыўнымі праціўнікамі ініцыятывы Апазыцыі ёсьць Анатоль Гурыновіч, Анатоль Сідарэвіч і Уладзімір Леўшуноў. І хаця пленум Грамады 18 студзеня прыняў-такі рашэньне ўзяць удзел у міжпартыйнай акцыі рэфэрэндуму, гэта выглядала хутчэй як жэст, які засьведчыў, што партыя пакуль асьцерагаецца абвастраць адносіны з БНФ.

Што тычыцца ўласна ідэі рэфэрэндуму, то рэальнасьць яе рэалізацыі сапраўды выглядае спрэчнай, аднак той факт, што на Беларусі дагэтуль не адбыліся дэмакратычныя выбары, што Рэспублікаю кіруе парлямэнт КПБ–КПСС, сьведчыць – рэфэрэндум як сродак дэмакратычнае зьмены прадстаўнічае ўлады надзвычай актуальны.

Тым часам, сытуацыя з рэфэрэндумам стала, фактычна, першай публічнай спрэчкаю паміж Грамадой і Беларускім Народным Фронтам, у часе якой сацыяль-дэмакраты заявілі, што будуць праводзіць уласную палітычную лінію. Аднак карані канфлікту губляюцца ў часох заснаваньня Фронту.

Беларускі Народны Фронт паўстаў у 1988 годзе як антыкамуністычны, альтэрнатыўны КПБ-КПСС рух. Другім пасьля антыкамунізму палітычным лёзунгам Фронту стала нацыянальнае адраджэньне. І хаця БНФ па сваёй будове й закладзеных ад самага пачатку прынцыпах нагадваў партыю, у 1988 ён ня мог быць арганізаваны як партыя, у гэтым, дарэчы, на мой погляд, ёсьць адна з хібаў ягонага цяперашняга становішча.

Тады й зараз ідэя нацыянальнага фронту дэмакратычных сілаў была й застаецца найболей надзённай і патрэбнай для грамадзтва. Аднак ні ў 1988 ні цяпер БНФ ня здолеў заняць палітычны цэнтар і стаць масавым рухам. Наадварот, на мяжы 1990–91 у ім пачалося драбленьне, вынікам якога стала вылучэньне з БНФ цэлага шэрагу палітычных партыяў. Аднак больш-менш сур'ёзную ролю ў палітычным спэктры Рэспублікі здолелі ўзяць толькі сацыяль-дэмакраты й Аб'яднаная дэмакратычная партыя. Нагадаю, што старшыня БСДГ Міхась Ткачоў пачаў сваю палітычную кар'еру менавіта ў Фронце й да пераходу ў Грамаду займаў пасаду намесьніка старшыні Сойму БНФ. Тое самае тычыцца й большасьці іншых сацыяль-дэмакратаў, якія ўключыліся ў палітычны працэс менавіта праз Фронт.

У часе 2-га зьезду БНФ, які адбыўся ў Менску 23–24 сакавіка мінулага году, кіраўніцтва Фронту зрабіла спробу сьцішыць распаўзаньне сілаў зноў аб'яднаць новыя партыі пад дахам БНФ, якасьці калектыўных членаў. Дзеля гэтага ў Статуце былі прадугледжаныя зьмены на карысьць сынтэзу пэрсанальнага й калектыўнага сяброўства ў Фронце з выдзяленьнем партыям сталай квоты ў Сойме. Прадстаўнікі-ж іншых палітычных структураў у пераважнай большасьці настойвалі на канцэпцыі фронту як чыстай канфэдэрацыі партыяў, падставай для аб'яднаньня якіх мусіла стаць ня ўласная праграма БНФ, а шэраг агульных прынцыпаў, што адпавядала-б клясычнай мадэлі народнага фронту. Нагадаю, што была прынятая рэдакцыя кіраўніцтва БНФ, якая прывяла да таго, што Фронт стаў арганізацыяй зь яскрава выражанымі прыкметамі партыі (наяўнасьць пэрсанальнага сяброўства, выплата сяброўскіх складак). Тады жаданьне стаць калектыўным сябрам БНФ выказала Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, прадстаўнікі іншых партыяў захавалі за сваімі ўдзельнікамі толькі права пэрсанальнага сяброўства ў БНФ.

Калі гаварыць пра далейшую эвалюцыю Фронту, пасьля выбараў у існы Вярхоўны Савет у ім яскрава вызначыліся дзьве плыні: парлямэнцкая Апазыцыя й уласна рух. Прычым парлямэнцкая Апазыцыя, якая ёсьць працэнтова невялікай часткаю БНФ, па выніках свае працы амаль цалкам перакрывае эфэктыўнасьць дзейнасьці другое плыні. У тым, што здарылася менавіта гэтак, адыгралі сваю ролю як аб'ектыўныя, гэтак і суб'ектыўныя чыньнікі. Па-першае, нэрв палітычнага жыцьця зьмясьціўся ў Вярхоўны Савет, па-другое, у Фронце фактычна спыніўся прыток новых людзей. Тым часам: нібы лякаматыўная сіла, што цягне Рэспубліку зь бездані камунізму й эканамічнага хаосу, – парлямэнцкая Апазыцыя БНФ – ня мае сабе роўных, аднак ва ўмовах абсурднага Вярхоўнага Савету й палітычна недаразьвітага грамадзтва яна абапіраецца толькі на ўласныя сілы й працуе, практычна, на мяжы магчымага. Праўда, апошнім часам пачалі акрэсьлівацца пэрспэктывы саюзу з напалоханымі новым падаткавым заканадаўствам прадпрымальнікамі. Ягонымі ініцыятарамі выступілі біржавікі.

З другога боку ўсё больш відавочнай пагрозаю нацыянальнаму сувэрэнітэту становіцца тэндэнцыя да росту нестабільнасьці на абшарах магутнага ўсходняга суседа. Магчымасьць дзяржаўнага перавароту ў Расеі вымагае кансалідацыі ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі на падставе абароны незалежнасьці ў форме клясычнага фронту. Гэтага-ж патрабуе й адсутнасьць на Беларусі палітычнага цэнтру.

У новай палітычнай сытуацыі, калі стэрэатып першаснасьці дзяржаўных інтарэсаў становіцца законам як для правых, гэтак і для левых, улічваючы й незарэгістраваную партыю камуністаў Беларусі, БСДГ вырашыла перахапіць ініцыятыву ў справе стварэньня палітычнага цэнтру.

Як вядома, сьвятое мейсца не пустуе, і 18 студзеня пленум Грамады выступіў з прапановаю стварэньня своеасаблівага новага руху – грамадзка-палітычнага блёку «Новая Беларусь». Сацыяль-дэмакраты запрашаюць у блёк усе палітычныя партыі, рухі, грамадзкія й прафэсійныя аб'яднаньні, якія гатовыя абараняць сувэрэнітэт Рэспублікі й выпрацаваць «рэальную» праграму выхаду з крызысу. Мяркуючы па тым, што ў працы пленуму ўзяў удзел міністар замежных справаў Пётр Краўчанка, які багаславіў ідэю «Новай Беларусі», акрамя іншага сацыяль-дэмакраты разьлічваюць прыцягнуць у блёк чыноўнікаў больш-менш прагрэсыўных перакананьняў. На глебе абароны сацыяльных правоў вайскоўцаў Грамада ўзмацніла працу ў войску. Кіраўніцтва БНФ на пленуме БСДГ не прысутнічала.

Фактычна, зроблены крок да расколу паміж БНФ і іншымі палітычнымі арганізацыямі, якія, разумеючы важнасьць нацыянальнае кансалідацыі, далучацца да «Новай Беларусі». Вынікам расколу можа стаць адштурхоўваньне Фронту на надзвычай няўдзячныя пазыцыі правага радыкалізму. Тым часам, як любы народу цэнтар зоймуць сацыяль-дэмакраты, што само па сабе выглядае ў пэўнай меры абсурдным. БСДГ ні ў якім выпадку ня ўпісваецца ў клясычную мадэль кансэрватыўнага палітычнага цэнтру, а спавяданыя яе сябрамі сацыялістычныя ідэі й каштоўнасьці трывала замацаваныя ў клясычным спэктры за левымі сіламі.

Наступствы рэалізацыі ідэі «Новай Беларусі» пры пэўным зьбегу акалічнасьцяў могуць самым кардынальным чынам паўплываць на пэрспэктывы далейшага разьвіцьця Рэспублікі. Мяркуючы па блізкасьці камуністычнай і сацыялістычнай ідэяў роўнасьці й разьмеркаванай дзяржаваю сацыяльнае справядлівасьці, а таксама наяўнасьці вялікае кагорты застаўшыхся часткаю бяз справы, а часткаю пры ранейшых «адказных» партфэлях былых членаў КПБ–КПСС, можна чакаць, што блёк будзе падтрыманы гэтымі людзьмі й у хуткім часе значна палявее.

Ірына Лазоўская


Стар. 2




**«Жывучы на чужыне, дзеля справядлівасьці я стаў беларускім, а не ангельскім сьвятаром». Чытайце інтэрвію зь вядомым уніяцкім сьвятаром а.Аляксандрам Надсонам.**


Стар. 3


**Сотні беларускіх афіцэраў, якія адмовіліся прысягаць на вернасьць іншым дзяржавам СНД, апынуліся непатрэбнымі на Бацькаўшчыне.**


Стар. 4


**У Рэспубліцы зроблены першы крок на шляху стварэньня нацыянальнае школы, – прыняты Закон аб адукацыі. «Аднак закон можа працаваць толькі ў праваой дзяржаве», – лічыць Уладзімір Валадзько, намесьнік дырэктара НДІ адукацыі.**

ДАКУМЭНТЫ

# «Новая Беларусь»

*Пастанова Цэнтральнай Рады Беларускай сацыяль-дэмакратычнай Грамады «Аб блёку «Новая Беларусь»*

Беларусь стала незалежнай дзяржавай. Дзесяткі краін сьвету прызналі яе самастойнасьць. Такім чынам у гісторыі нашай краіны пачынаецца якасна новы этап.

Перад Рэспублікаю Беларусьсю цяпер стаяць новыя задачы. Неабходна распрацаваць канцэпцыю зьнешняй і абароннай палітыкі, канцэпцыю нацыянальнае бясьпекі. Неабходна распрацаваць праграму эканамічнага разьвіцьця Рэспублікі, вызначыць прыярытэты ў зьнешне-эканамічных сувязях. Неабходна выпрацаваць меры для сацыяльнай абароны насельніцтва, для забесьпячэньня нармальных умоваў жыцьця й працы грамадзянаў. Нарэшце неабходна выпрацаваць канцэпцыю разьвіцьця культуры, навукі й асьветы ў самастойнай Беларусі.

Улічваючы множнасьць інтарэсаў грамадзянаў Рэспублікі, множнасьць поглядаў на шляхі далейшага палітычнага, сацыяльнага, эканамічнага й культурнага разьвіцьця Беларусі, БСДГ выказваецца за дыялёг паміж грамадзкімі, палітычнымі, прафэсійнымі арганізацыямі, за выпрацоўку сумеснае праграмы. Таму Цэнтральная Рада БСДГ заклікае ўсе палітычныя партыі й рухі, прафэсійныя арганізацыі да стварэньня грамадзка-палітычнага блёку «Новая Беларусь».

Цэнтральная Рада БСДГ даручае старшыню й выканкаму Цэнтральнай Рады пачаць перагаворы з партыямі, рухамі, прафсаюзамі, арганізацыямі прадпрымальнікаў дзеля афармленьня блёку «Новая Беларусь» і выпрацоўкі зь імі супольнае плятформы.

18.01.1992
Цэнтральная Рада
Беларускай сацыяль-дэмакратычнай Грамады

Акрамя таго ў выніку працяглае дыскусіі Пленум Цэнтральнай Рады БСДГ вырашыў падтрымаць ініцыятыву Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце пра падрыхтоўку да рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету й новых выбарах паводле закону аб выбарах, які быў падрыхтаваны Апазыцыяй.

Арганізацыйная сустрэча магчымых удзельнікаў грамадзка-палітычнага блёку «Новая Беларусь» прызначаная **на 11 гадзін 1 лютага** ў Беларускай тэатральна-мастацкай акадэміі. Даведкі можна атрымаць па тэлефоне **394-807**.

ВІЗЫТЫ



# А.Аляксандар Надсон: УНІЯ ПАСПРЫЯЛА ЗАХАВАНЬНЮ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СЬВЯДОМАСЬЦІ БЕЛАРУСАЎ

*Апостальскі візытатар для беларусаў-каталікоў замежжа а.Аляксандар Надсон добра вядомы на Беларусі як арганізатар дабрачыннай дапамогі ахвярам Чарнобыля, ягоных прыездаў на Бацькаўшчыну зь нецярпеньнем чакаюць у шпіталёх Менску й Гомельшчыны. У справе гуманітарнай дапамогі а.Аляксандар працуе без пасрэднікаў, закупляе лекі й абсталяваньне па замовах лекараў і сам дастаўляе яго хворым.*

*Але гэтая гутарка з а.Аляксандрам прысьвечаная найперш пытаньням веры.*

**«Навіны»: Айцец Аляксандар, на Беларусі назіраецца відавочны ўздым цікаўнасьці да ўніяцкае царквы, вось і сёньня шмат хто прыняў хрост ад Вас. Чым Вы гэта тлумачыце?**

**А.Надсон:** Найперш трэба заўважыць, хто тыя людзі, што далучыліся сёньня да веры. Пераважная большасьць сярод іх – моладзь. Яны гавораць па-беларуску, а нават у цяперашні час гэта значыць вельмі шмат. Большасьць зь іх прайшла свой шлях да Бога праз ідэю адраджэньня свае Бацькаўшчыны й народу. Сёньня да уніі далучаюцца як тыя, хто адчуў у сабе веру, так і тыя, хто ў межах іншых канфэсіяў не знайшоў гатоўнасьці спрыяць беларускай ідэі.

І хаця апошнім часам папулярныя развагі пра страчанае пакаленьне пра моладзь, абыякавую да ўсяго, акрамя задавальненьня ўласных жаданьняў, людзі, якія йдуць да нас, іншыя. Яны шукаюць духоўнае падтрымкі, каб перарабіць хворае грамадзтва.

**«Навіны»: Прадстаўнікі праваслаўнай і нават каталіцкай царквы не заўсёды прыхільна ставяцца да справы адраджэньня уніі. Чаму?**

**А.Надсон:** Гэта можна зразумець. Праваслаўная царква, хаця й мае агульную з грэка-каталіцкай абраднасьць, застаецца перш за ўсё Расейскай праваслаўнай царквою. На жаль, да пэўнаи ступені гэта тычыцца й каталіцкага касьцёлу, бо каталіцызм рымскага абраду ў выніку памылковай палітыкі касьцельных уладаў большасьцю насельніцтва па-ранейшаму ўспрымаецца як «польская» вера.

Адрозьненьне грэка-каталіцызму ў тым, што ён на працягу стагодзьдзяў дапамагаў захаваць нацыянальную сьвядомасьць народу Беларусі. Нам ставяць у папрок гвалт, ужываны на пачатку дзейнасьці ўніятаў, учынкі Язафата Кунцэвіча. Але-ж у той час міжканфэсійныя спрэчкі былі агульнай праблемаю ва ўсіх краінах Эўропы. Тым часам за акном 20-е стагодзьдзе, іншая сытуацыя, і мы імкнемся да аднаго – далучыць людзей да Хрыста.

Што датычыць адносінаў уніяцкае царквы зь іншымі, дык мы не імкнемся перацягнуць да сябе вернікаў іншых канфэсіяў. Унія ня ёсьць пагрозаю для праваслаўя, тым болей для рыма-каталіцызму. Дадам, што яе пазыцыі на Беларусі яшчэ вельмі слабыя: тры сьвятары на ўсю Рэспубліку – у Менску, Горадні, Гомелі, два дыяканы, якія, дасьць Бог, стануць сьвятарамі, ды некалькі тысячаў вернікаў.

**«Навіны»: Часам гавораць, што калі праваслаўныя маюць накіраванасьць на Ўсход, каталікі – на Захад, дык уніяты выразна арыентуюцца на Ўкраіну.**

**А.Надсон:** Царква ўвогуле не павінна мець якой-небудзь арыентацыі. Шчыльныя сувязі ўкраінскіх і беларускіх грэка-каталікоў тлумачацца тым, што беларусы ня маюць уласнае царкоўнае адміністрацыі й таму часова падпарадкаваліся мітрапаліту Львоўска-Галіцкаму Володыміру. Украінскія сьвятары, у адрозьненьне ад польскіх ці расейскіх, спрыяюць нашым вернікам і не спрабуюць прызначыць на Беларусь свайго мітрапаліта.

**«Навіны»: Вы лічыце, што царкоўная адміністрацыя павінна прызначацца са сьвятароў мяйсцовага паходжаньня?**

**А.Надсон:** Нядаўна было прынятае рашэньне аб утварэньні на Беларусі двух біскупстваў і прызначэньні біскупа Менскага. Усім беларускім каталікам вядомая дзейнасьць кс.Чарняўскага, які ўсё жыцьцё прысьвяціў службе Богу й перакладу на беларускую мову каванічных тэкстаў. Мне здавалася, адзінае, што можа перашкодзіць ягонаму прызначэньню на гэтую пасаду, – узрост. Але біскупам стаўся кс.Сьвёнтак, вядомы й на Беларусі й у Польшчы як польскі патрыёт. Гэта, на мой погляд, памылка Сьвятога Пасаду. Пройдуць гады, і цяперашнія хібы давядзецца выпраўляць зь вялікім спазьненьнем і вялікімі цяжкасьцямі.

**«Навіны»: Некаторыя сьвятары актыўна выкарыстоўваюць парляманцкія мандаты. Як на Ваш погляд, ці можа царква ўмешвацца ў палітычны працэс?**

**А.Надсон:** Я лічу, сьвятар не павінен састаяць у палітычнай партыі. Ён павінен быць абсалютна роўным для ўсіх сваіх прыхажанаў, незалежна ад іхніх палітычных перакананьняў. Хрысьціянска-дэмакратычныя партыі, якія існуюць ва ўсім сьвеце, і ў тым ліку на Беларусі, могуць імкнуцца пераўтварыць грамадзтва паводле нормаў хрысьціянскае маралі, якія вызнаюць іхнія сябры. Але гэтыя партыі ніколі не зьяўляюцца голасам царквы. Адзіным выпадкам, калі царква можа ўмешвацца ў справы грамадзтва ці дзяржавы ёсьць неадпаведнасьць чалавечае этыкі Божым законам. Так, у шмат якіх краінах Захаду царква выступае за забарону абортаў, бо з нашага пункту гледжаньня гэты ўчынак ёсьць забойствам нявіннага.

**«Навіны»: Беларускія ўніяты сабралі каля дзьвюх тысячаў подпісаў пад лістом да Яна-Паўла II з просьбаю аб Вашым прызначэньні адміністратарам уніяцкае царквы на Беларусі...**

**А.Надсон:** Стаўшы сьвятаром, я ўсё жыцьцё прысьвяціў служэньню Богу й свайму народу. Жывучы на чужыне, дзеля справядлівасьці я стаў беларускім, а не ангельскім сьвятаром. Мне давялося пераадолець шмат цяжкасьцяў, але я ніколі не імкнуўся быць біскупам. У кожным выпадку ўсё будзе вырашана безь мяне.

**«Навіны»: а.Аляксандар, галоўная мэта вашага візыту – справы веры?**

**А.Надсон:** Ня толькі. Як і заўсёды, асноўны накірунак маёй дзейнасьці – дапамога ахвярам Чарнобыля. Спадзяюся, што лекі, сабраныя вернікамі Англіі, дапамогуць маім суайчыньнікам на Бацькаўшчыне. Каб несьці свайму народу слова Божае, трэба найперш захаваць народ ад вынішчэньня.

**Запісаў Уладзімір Панада**

P.S. «Навіны» абураныя прыкрым выпадкам, які напаткаў а.Надсона ў Гомелі, дзе невядомыя скралі дабрачынныя лекі з аўтамабіля сьвятара. Гэта ня робіць гонару суайчыньнікам.

КРОНІКА

## МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАЎ ШУКАЕ ГАРАНТАЎ СУВЭРЭНІТЭТУ

**Менск.** 18 студзеня на пленуме Цэнтральнай Рады БСДГ міністар замежных справаў Рэспублікі Пётр Краўчанка заявіў, што ягонае ведамства актывізавала намаганьні ў справе інтэграцыі Беларусі ў агульна-эўрапейскую супольнасьць. Ён лічыць, што далучэньне Рэспублікі да хельсынскага працэсу стане адной з асноўных гарантыяў яе сувэрэнітэту ў выпадку перавароту ў Расеі. Акрамя таго міністар Краўчанка паведаміў, што ў хуткім часе будуць адкрытыя беларускія пасольствы ў Нямеччыне, Польшчы, Бэльгіі, ЗША, Ізраілі, Швэцыі й Карэі. «На Ўсходзе мы робім стаўку на маладых драконаў», – сказаў ён. Амэрыканскае пасольства ў Менску найхутчэй адкрыецца ў лютым–сакавіку.

## УСЁ ЛЕПШАЕ – ДЗЕЦЯМ... КПБ!

**Полацак.** Старшыня гарвыканкаму Канстанцін Хоміч паведаміў: плянуецца перадача былога будынка гаркаму КПБ у карыстаньне адміністрацыйным службам гарвыканкаму. У той самы час адзіная ў горадзе музычная школа, у якой вучацца звыш 600 хлопчыкаў і дзяўчынак, знаходзіцца ў паўпадвальным памяшканьні былое турмы НКУС. 13 студзеня гарадзкая Рада БНФ накіравала адкрыты ліст да дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі Ўладзіміра Паруля, Уладзіміра Цялежнікава й Сяргея Бярдаўцава з просьбаю паспрыяць перадачы памяшканьня школе.

Жаданьне Савету й гарвыканкаму пераехаць у будынак гаркаму партыі тлумачыцца проста: пэўная колькасьць дэпутатаў гарсавету й работнікаў выканкаму – былыя супрацоўнікі ГК КПБ. Яны імкнуцца зноў заняць свае былыя 64 габінэты.

## ЗА КОШТ АЎТАРА

**Кобрын.** Накладам у 900 асобнікаў выйшла кніга паэзіі «Чарнабел», якую за ўласны кошт выдаў паэта Ігар Сідарук. Кніга, выдадзеная «тарашкевіцаю», каштавала аўтару 300 рублёў – суму абсалютна нерэальную для дзяржаўнага выдавецтва.

## УЛАДА НОВАЯ – ГУЛЬНІ СТАРЫЯ

**Полацак** Выканкам гарадзкога савету Полацку прапанаваў зацьвярджаць на сваіх паседжаньнях прызначэньне на пасады дырэктароў музычнае й мастацкае школаў, крамаў і рэстарацыяў, галоўных інжынэраў і намесьнікаў дырэктараў прадпрыемстваў, у тым ліку арэндных. Зь першага разу прапанова не прайшла, што не азначае адмовы ад яе. Аўтарства ідэі належыць старшыню гарвыканкаму Канстанціну Хомічу й ягонаму намесьніку Аляксандру Масанаву.

## ПАПСКІ НУНЦЫЙ ІЗНОЎ У МЕНСКУ

**Менск.** 17 студзеня адбылася сустрэча міністра замежных справаў Беларусі Пятра Краўчанкі й прадстаўніка Сьвятога Пасаду – папскага нунцыя Францэска Калясуонэ. Падчас сустрэчы былі абмеркаваныя пытаньні прызнаньня Беларусі Ватыканам і наладжваньня дыпляматычных сувязяў паміж дзяржавамі, а таксама дзейнасьці каталіцкае царквы на Беларусі.

## КОБРЫНСКІ ГАРВЫКАНКАМ ГРЭБУЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВАЙ РЭСПУБЛІКІ

**Кобрын.** Два месяцы таму ў горадзе была створаная сетка кабельнае тэлевізіі. Фундатарам малога прадпрыемства-арганізатара вяшчаньня стаў выканкам гарсавету. У якасьці рабочай супрацоўнікамі новага каналу масавае інфармацыі прынятая мова міжнацыянальных зносінаў былога СССР. Прапанова мяйсцовых журналістаў рыхтаваць перадачы па-беларуску была адвергнутая з парога.

**Падрыхтавалі І.Лазоўская й Ул.Панада.**

АВАНТУРЫ

# БЕЛАРУСЬ У ПЛЯНАХ ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

Шаноўнае спадарства! Усіх нас вучылі ў школе: імпэрыялізм ставіць пасткі й стварае пляны супраць нашае першае ў сьвеце краіны працоўных і сялянаў. Цяпер гэтая дзяржава зьнікла, і ня вельмі зразумела, што засталося на ейным мейсцы, дзяржаваю якое клясы ёсьць сувэрэнная Беларусь, і ці маюць імпэрыялісты пэўныя пляны супроць яе. Пляны ў іх, зразумела, патаемныя, і даведацца пра іх мы ня здолеем. Затое намеры асобных грамадзянаў нашае Рэспублікі ўжо робяцца яваю, і капіталістам у іх адведзена самае пэўнае мейсца.

Зьява гэтая каго радуе, а каго палохае. Усё залежыць ад шчыльнасьці кантактаў з гнілым сьветам чыстагану. Першымі дабраліся да амэрыканскіх даляраў ды дойчэмарак тыя дачкі нашага народу, якія прысьвяцілі сябе актуальнай справе валютнае прастытуцыі. Справу, як робіцца, працягнулі духоўна блізкія да іх арганізатары камсамолу, якія наладзілі карысна-пазнавальны турызм у сумежныя краіны. Гледзячы на моладзь зь белай зайздрасьцю ў вачох, задумаліся й больш сталыя людзі. Цьвяроза ацаніўшы сваю сэксуальную прывабнасьць і спрыт, яны зразумелі, што чаканыя «баксы» ды іхнія аналёгі магчыма грэсьці, не выходзячы з любімых габінэтаў. Потым разважылі: «А што ў нас самае каштоўнае? Во, дакладна, маці-радзіма». Менавіта ёю й вырашылі гандляваць.

Такім чынам, падставаю падзеяў стаў глыбокі й, не пабаюся гэтага слова, марксысцкі аналіз сытуацыі. Ён, як і ўсё на гэтым сьвеце, мае асобныя недахопы. Выхаванцы нашых ВПШ як заўсёды дазволілі сабе дагматызм і прыўкрашваньне рэчаіснасьці. Дагматызмам ёсьць імкненьне лічыць усіх такімі-ж дурнямі, як і сваіх суайчыньнікаў, адкуль выцякае самы махровы ідэалізм – упэўненасьць у тым, што праз бальшавіцкі імпэт можна зь ня меншым посьпехам надурыць увесь сьвет. Гэткім чынам яны сказалі імпэрыялістам: «Бярыце нашую Радзіму».

Разгледзім нашыя невясёлыя справы на прыкладзе беларуска-карэйскіх дачыненьняў. «Белорусский деловой вестник» заўважыў, што гэта, падобна, усур'ёз. Каму давядзецца ставіцца да таго з усёй сур'ёзнасьцю, робіцца зразумелым з сутнасьці справаў на заводах БелВар (былыя імя таварыша Леніна).

Між тым, у Краіне Сьвежага Ранку ёсьць карпарацыя DAEWOO, якая мае цьвёрдыя намеры пачаць вытворчасьць мікрахвалевых печаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусі, што дазволіць кожнай беларускай сям'і ўпрыгожыць свае кухні тымі мікрахвалевымі печкамі коштам 8 тысячаў рублёў. І ўсё гэтае кухоннае хараство за якія 5 год.

Засталося, як кажуць, пачаць і скончыць. Каб пачаць, карэйскі бок падрыхтуе плян заводу, паставіць абсталяваньне, дапільнуе ягоную наладку, выпрабуе, перадасьць тэхналёгію й прывязе па кавалках 340 000 печак. Наш бок для пачатку навучыць кваліфікаваныя кадры БелВару карыстацца шрубакрутамі ў справе зборкі кухоннага абсталяваньня. Кваліфікаваныя работнікі ўжо ня надта радыя той пэрспэктыве й паціху пачынаюць бурчэць. Найбольш чутна бурчыць Вольны прафсаюз. Ягоны актывіст Анатоль Мацьвеенка разам зь сябрамі гатовы выступіць супраць разгрому супэркалектыву, які вырас на заказах вайскова-прамысловага комплексу й здольны на большае, чым кітайскія сяляне, занятыя зборкай тэхнікі з пастаўленых «драконамі» блёкаў.

Але гэта не галоўнае. Не міне й трох год упартае зборкі, як нашым работнікам дазволяць выраблять мэталічную фурнітуру й часткі. А калі наш урад прадаставіць поўную абарону інвэстыцыяў, дык нас дапусьцяць і да больш складаных кампанэнтаў.

Наіўныя імпэрыялісты! Хіба толькі Бог, які, паводле народнае прыказкі, «жыве на Беларусі», ведае, ці будзе ў нас праз тры гады мэтал і нават ён ня ведае, ці будзе ў нас урад, здольны нешта гарантаваць. З другога боку, для карэйцаў відавочна: у нас іхнія печкі набываць няма каму, бо яны прызначаныя для смажаньня мяса. У Заходняй Эўропе сваіх печак хапае, таму партнэры патрабуюць, каб за Одэрам гэтае дабро не прадавалася.

Дзеля іхняга заспакаеньня паведамілі: мы яшчэ не дарэшты зьбяднелі. Мы яшчэ маем канвэртуемую валюту для стварэньня заводзіка па выпуску печак і нават ягонай працы на першых двух этапах. Падобна, іншых прыярытэтаў для выкарыстаньня валюты ўрад адшукаць ня ў стане. Затое адшукалі гарадзенскае ВА «Азот», якое выпрабляе мачавіну, а яна каштуе ня меней 130 даляраў ЗША за тону.

Карэйцы разумеюць, што хаця мачавіна карысная ў сельскагаспадарчай вытворчасьці, затое шкодная для здароўя саміх карэйцаў. Вось чаму гэтыя разумныя людзі правядуць рэканструкцыю старых лініяў «Азоту» й пабудуюць адну новую дзеля вытворчасьці 200 000 тонаў у год гэтага ўгнаеньня. Натуральна, разьлік будзе весьціся гатовай прадукцыяй ды здароўем абарыгенаў.

Гэткім чынам мы будзем мець два заводы. Адзін будзе выпрабляць тое, што цяпер нам не патрэбна. Другі будзе за гэта разьлічвацца. Рабочыя атрымаюць заробак у рублёх ды шкодны дым ВА «Азот», а DAEWOO – прыбытак у далярах. Заробак у далярах будуць атрымліваць і тутэйшыя арганізатары гэтага мерапрыемства. Апошніх – віншуем. Яны дасягнулі ўзаемаразуменьня зь імпэрыялістамі, аб чым нават падпісаны адпаведны мэмарандум. Пасьпяховых вам камандзіровак, таварышы!

Гэтая публікацыя ня можа разглядацца як рэкляма БелВару, DAEWOO ці Вольнага прафсаюза Беларусі. Аўтар не заклікае байкатаваць печкі мадэлі DMR-113B і запісвацца ў прафсаюзы. Проста хацелася-б, каб, гандлюючы апошнім з таго, што мы маем – сіламі й талентам нашых людзей, спэцыялісты па гэтым гандлі ўлічвалі, што гэтыя людзі маюць сваю думку й здольныя выказваць яе ня вельмі дыпляматычна.

**Міхась Залескі.**

P.S. Нашая спроба зьвярнуцца па тэлефоне непасрэдна да зацікаўленага боку скончылася тым, што намесьнік галоўнага інжынэра БелВару сп.Генадзь Мусатаў абвінаваціў нас у пасьпешлівасьці й сказаў: дамова гэтая мае пакуль што ўплыў роўны пляісканьню пугай па вадзе. Усё стане вядома ў канцы студзеня – пачатку лютага. Пачакаем.

ЦЭНТАР

# КАПІТАЛІЗМ З ЧАЛАВЕЧЫМ ТВАРАМ

*Апошнім часам на Беларусі вырас рэйтынг сацыяль-дэмакратаў. Беларуская сацыяль-дэмакратычная Грамада стала другой пасьля БНФ папулярнай палітычнай сілай у Рэспубліцы. Патэнцыйнай крыніцай росту шэрагаў партыі ёсьць, па-першае, тое, што яна пазьбягае радыкальнасьці й зарыентаваная на інтэлігенцыю цэнтрысцкіх перакананьняў, па-другое, тое, што перад прыярытэтам рынкавай рэформы яна ставіць забесьпячэньне трывалых сацыяльных гарантыяў працоўным, а гэта ва ўмовах гэтак званай лібэралізацыі цэнаў прыцягвае рабочых і службоўцаў дзяржаўнага сэктару эканомікі.*



Беларуская сацыяль-дэмакратычная Грамада ўзьнікла як пераемніца Беларускае Сацыялістычнае Грамады. Мы перанялі ад нашых папярэднікаў многія прынцыпы й лічым, што толькі дасягненьне незалежнасьці Беларусі – рэальны крок да павышэньня дабрабыту беларускага народу. Але часы зьмяніліся, таму нашыя палітычныя й эканамічныя праграмы маюць істотныя адрозьненьні. У прыватнасьці, гэта адбілася ў зьмене назвы партыі. Мы выступаем за грамадзтва сацыяльнай дэмакратыі, у якім рынкавая эканоміка спалучаецца з сацыяльнай абаронаю правоў грамадзянаў. Партыя прадстаўляе інтарэсы людзей наёмнае працы незалежна ад таго, каму яны прадаюць свае рукі й інтэлект – гаспадару, прадстаўніку дзяржаўных органаў ці каму яшчэ.

Як сьведчаньне правільнага выбару сыстэмы каштоўнасьцяў успрымаю тэндэнцыю да росту папулярнасьці БСДГ. Акрамя таго на рэйтынг партыі паўплывала наяўнасьць фракцыі БСДГ у ВС Беларусі, уласныя друкаваныя органы. Мы выдаем газэту «Грамада», менская філія БСДГ выдае «Менскі весьнік», існуе орган магілёўскай філіі. Дзеячы Грамады актыўна выкарыстоўваюць іншыя сродкі масавае інфармацыі. Што датычыцца мітынгаў, дык мы лічым іх малаэфэктыўнымі ў пляне палітычнае прапаганды, хаця заўсёды бярэм у іх удзел. Мітынгі пакліканыя для вырашэньня найбліжэйшае задачы, прыхільнікі-ж партыі, на нашую думку, павінны добра разьбірацца ў палітычным жыцьці краіны, бачыць шляхі выйсьця з камуністычнае ямы. Дзеля гэтага мы шырока ўжываем правядзеньне для сяброў і прыхільнікаў Грамады навукова-практычных канфэрэнцый.

На Захадзе найболей шчыльныя кантакты партыя наладзіла з сацыяль-дэмакратамі Нямеччыны, якія заявілі аб падтрымцы нашых намераў уступленьня ў Сацінтэрн. Мы маем адрозьненьні ў праграмах, але-ж гэта зразумела – праблемы, якія сёньня ёсьць для нас самымі істотнымі, яны ўжо вырашылі. Уласная эканамічная праграма Грамады прайшла ўжо некалькі абмеркаваньняў, але гаварыць аб яе зацьверджаньні рана. Складанасьць сытуацыі ў тым, што ў рынкавыя адносіны мы ўваходзім з фантастычна вялікай доляю дзяржаўнае маёмасьці й без антыманапольнага заканадаўства. Адсутнічае як закон аб прыватызацыі, так і закон, які даваў-бы грамадзянам Беларусі роўныя стартавыя ўмовы.

Што датычыць незалежнасьці нашае палітыкі ад іншых партыяў і рухаў, у прыватнасьці БНФ, яна вызначаецца нашым статутам. Значная частка кіраўніцтва Грамады зьяўляецца сябрамі Сойму БНФ, але гэта не замінае плюралізму думак. БНФ пачынаўся як апазыцыйны КПБ рух, але цяпер, калі КПБ у барацьбе з БНФ панесла велізарныя страты, паўстала пытаньне аб шляхох далейшага разь-віцьця грамадзтва. З прычыны таго, што ў БНФ уваходзяць людзі самых розных палітычных поглядаў – ад лібэралаў да апалягетаў камуністычных каштоўнасьцяў, адбываецца натуральны працэс выдзяленьня з Фронту групаў асобаў з больш-менш блізкімі палітычнымі перакананьнямі. Гэтак і вылучэньне з Фронту цэнтрысцкае плыні, прадстаўнікі якое сталі заснавальнікамі Грамады, было непазьбежнае. Мы не імкнемся да прысьпешваньня падзеяў, бо лічым: ня ўсё добра, што робіцца хутка. Масавая прыватызацыя такая-ж дрэнь, як і масавая калектывізацыя. Нашая задача – на падставе законаў і дынамікі эканамічнае сытуацыі даць людзям магчымасьць самім прымаць рашэньні.

Мы ні ў якім выпадку ня лічым сябе часткаю БНФ, ня маем на гэта права, бо Пленум Цэнтральнае Рады БСДГ прыняў рашэньне не ўваходзіць у Фронт структурнай часткаю. Прычына гэтаму тое, што нашая партыя яднае ў сваіх шэрагах як сябраў БНФ, так і людзей, якія не хацелі-б зьвязваць сваё імя з Фронтам. Мы ня маем права заганяць туды людзей прымусам.

Грамада разглядае сябе як арганізацыю ва ўсім роўную БНФ і чакае ад яго такога-ж падыходу. На жаль, гэта адбываецца не заўжды. Прыклад таму – пытаньне рэфэрэндуму. На наш погляд, усе партыі былі пастаўленыя перад фактам прыняцьця Фронтам рашэньня аб правядзеньні рэфэрэндуму без папярэдніх кансультацыяў. Мы не падпісалі міжпартыйную заяву аб падрыхтоўцы да рэфэрэндуму, бо згодна са статутам, такія справы вырашае нашая Цэнтральная Рада.

Што тычыцца асабіста мяне, лічу ідэю рэфэрэндуму спрэчнай, бо хаця Саўмін і парлямэнт не спраўляюцца са сваімі функцыямі й у пераважнай большасьці ідуць сьледам за падзеямі, гэта не азначае, што неабходная тэрміновая зьмена іхняга складу. Па-першае, урад, хай са спазьненьнем і пад моцным уціскам Апазыцыі й, часамі, рабочага руху, прымае неабходныя рашэньні. Створаныя ўласныя Збройныя Сілы, Міністэрства абароны, прынятыя меры для абароны ўнутранага рынку ад эмісіі рублёў зь іншых рэспублікаў былога СССР, справа йдзе да ўвядзеньня ўласных грошай.

Па-другое, на сёньняшні дзень грамадзтва ў сваёй большасьці яшчэ ня вызначылася палітычна. Гэта можа прывесьці да таго, што ў новаабраныя органы ўлады прыйдуць залатагалосыя дэмагогі, здольныя толькі на абяцанкі, прадстаўнікі ценявога бізнэсу. Такая небясьпека рэальная, бо менавіта яны валодаюць фінансамі для арганізацыі выбарчае кампаніі.

На мой погляд, нават камуністы, асабліва старэйшага пакаленьня, абраныя ў цяперашні склад парлямэнту паводле старога выбарчага заканадаўства, прадстаўляюць значна меншую небясьпеку й пад уціскам Апазыцыі дэманструюць сабою большую здольнасьць да прыняцьця рашэньняў дзеля абароны сувэрэнітэту й нацыянальнага адраджэньня, чым прадстаўнікі мафіёзных структураў, якія імкнуцца да ўлады.

Як сацыяль-дэмакрат, я імкнуся рэалізоўваць погляды партыі ў сваёй дэпутацкай дзейнасьці ў Менгарсавеце.

**Анатоль Гурыновіч.**

**Сёньня «Навіны» робяць спробу аб'яднаць два дыямэтральна процілеглыя пункты погляду на пэрспэктывы разьвіцьця Рэспублікі: сацыяль-дэмакрата Анатоля Гурыновіча й сябра БНФ Уладзіміра Заблоцкага,– адзін лічыць сябе цэнтрыстам, другога ўспрымаюць як палітыка-радыкала. Тым часам, у дадзеным кантэксьце цэнтрызм выглядае кансэрватыўным, а радыкалізм – здаровым сэнсам. А як лічыце Вы?**

РЭФОРМА

# ДЭМАКРАТЫІ БЯЗ РЫНКУ НЕ БЫВАЕ

*Праграма эканамічнага разьвіцьця Беларусі, над якой працуе група народнага дэпутата Рэспублікі Ўладзіміра Заблоцкага, пакідае сацыяльныя гарантыі на саміх грамадзянаў, а ролю дзяржавы ў гэтай справе зводзіць да простага забесьпячэньня права свабоднага продажу працоўных рук і інтэлекту.*



**«Навіны»: Спадар Заблоцкі, ці можна назваць прыватызацыяй тое, што цяпер адбываецца ў Рэспубліцы, якія галоўныя ўмовы пераходу да рынку?**

**Уладзімір Заблоцкі:** Адразу мушу сказаць: прыватызацыя – ня мэта, а сродак зрабіць нацыянальную эканоміку эфэктыўнай. Ня так істотна ў чыіх рукох знаходзяцца сродкі вытворчасьці, галоўнае, каб яны выкарыстоўваліся з найбольшым плёнам. З гэтай мэтаю мы распрацоўваем свае праграмы прыватызацыі, бо працэс, які адбываецца цяпер, прыватызацыяй назваць нельга. Большасьць сярод тых, хто сёньня гэтым займаецца, абапіраецца на часовае палажэньне й прыватызуе ўсё, за чым няма належнага дагляду. Урад няўмела распараджаецца дзяржаўнай маёмасьцю, а, здараецца, і сваекарысна.

Пераход да рынку дыктуе нам жорсткія ўмовы. Кіраўніцтва прадпрыемства мусяць клапаціць пытаньні канкурэнтаздольнасьці, а не сацыяльнае абароны работнікаў. Сёньня на заводах, як правіла, працуе работнікаў у некалькі разоў болей, чым трэба, і захаваньне такога стану рэчаў абавязкова прывядзе да закрыцьця вытворчасьці.

Прадпрыемствы, незалежна ад таго, належаць яны дзяржаве, прыватнай асобе ці працоўнаму калектыву, не павінны атрымліваць фінансавае падтрымкі зь дзяржаўнага бюджэту. Гэта створыць канкурэнцыю, ва ўмовах якой нерэнтабэльныя, малаэфэктыўныя прадпрыемствы папросту збанкрутуюць. Акрамя таго мусіць быць катэгарычна забароненае ўмяшаньне дзяржавы ў дзейнасьць прадпрыемстваў незалежна ад формы ўласнасьці.

Гэта – рэальнасьці рынкавае эканомікі, якія дазволяць стварыць рынак не вытворцаў і прадаўцоў, а рынак пакупнікоў, калі галоўным будзе не вытворчасьць, а продаж тавару. Мусіць быць створаны рынак сыравіны й сродкаў вытворчасьці з роўнымі для ўсіх умовамі, прынятае антыманапольнае заканадаўства. Усё, аб чым я гавару, павінна быць замацавана законамі Рэспублікі.

Функцыі дзяржавы павінны быць абмежаваныя вырашэньнем пытаньняў сацыяльнае абароны грамадзянаў, падтрымкі некамэрцыйнай дзейнасьці, кіраваньня дзяржаўнымі структурамі, забесьпячэньня правоў чалавека.

**«Навіны»: Якім спосабам мусяць быць забясьпечаныя сацыяльныя гарантыі грамадзянаў?**

**Ул.З.:** Пытаньне абароны сацыяльных правоў насельніцтва ўзьнікае натуральна. Наёмныя работнікі заўсёды зацікаўленыя ў атрыманьні такое часткі свае працы, якая-б забясьпечыла ім годнае існаваньне. Тут існуюць дзьве канцэпцыі. Першая – забесьпячэньне людзей праз дзяржаўныя праграмы, што на працягу дзесяцігодзьдзяў рабілася ў былым СССР і даказала сваю неэфэктыўнасьць. Другі шлях – гарантаваньне грамадзянам краіны магчымасьці прадаваць сваю працу й эканамічнымі спосабамі абараняць свае правы: праз прафэсыйныя саюзы, страйкавыя камітэты й г.д. На мой погляд, урад павінен зрабіць кошт наёмнае працы вельмі высокім. Работнік мусіць атрымліваць не 15-20% ад прыбытку, як цяпер, а каля 60%. Можна быць пэўным, што на такую эксплюатацыю згодзіцца кожны. Ад дзяржавы патрабуецца толькі заканадаўчае замацаваньне мінімальнага, адпаведнага пражытковаму мінімуму ўзроўню зарплаты. Чалавек павінен мець магчымасьць сам забясьпечыць сваё існавньне, а не атрымліваць ад дзяржавы дабрачынную дапамогу, адабраную ў яго раней у выглядзе падаткаў.

**«Навіны»: Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце выступіла зь ініцыятывай правядзеньня рэфэрэндуму аб роспуску парлямэнту, ці Вы лічыце, што праблема ўлады можа быць вырашаная толькі радыкальным чынам?**

**Ул.З.:** Ці ў стане стварыць новую эканоміку людзі, якія цяпер трымаюць уладу? Ужо былі спробы рэфармаваньня Вярхоўнага Савету, але, баючыся магчымай перавагі ў сваім складзе прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў, Вярхоўны Савет не згадзіўся на гэта. Сярод галоўных недахопаў парляманту – спазьненьне ў прыняцьці рашэньняў, блытаніна выканаўчай, судовай і заканадаўчай улады, якая супярэчыць дэкляраванаму ў Канстытуцыі й Дэклярацыі аб сувэрэнітэце прынцыпу разьдзяленьня ўладаў. Таму неабходныя новыя выбары.

Новы парлямэнт ці Сойм у адрозьненьне ад гэтага мусіць быць пабудаваны на прафэсійным прынцыпе. Хто пяройме ўладу? Я ня бачу небясьпекі ў тым, што акрамя палітыкаў і прадстаўнікоў рабочага руху парлямэнцкія мандаты атрымаюць камэрсанты. Кляса ўласьнікаў, якая ўжо пачала фармавацца, патрабуе ня лёбі ў парлямэнце, а ўстойлівых заканадаўства й дзяржаўнае сыстэмы, бо дэмакратыя й рынкавыя адносіны шчыльна зьвязаныя паміж сабою. І ўжо зробленая спроба сфармаваць Канстытуцыю, абапіраючыся менавіта на патрабаваньні прадстаўнікоў новае, недзяржаўнае эканомікі. Рынкавае заканадаўства ёсьць адзіная гарантыя эканамічнага рэнэсансу. Тым часам, цяперашні парлямэнт абараняе інтарэсы аджылай сыстэмы.

Мы таксама павінны добра разумець, што ў фармаваньні новага грамадзтва ў першую чаргу зацікаўленыя незалежныя ад дзяржавы, не сапсаваныя таталітарным рэжымам людзі, што ўстойлівасьць дзяржаўнае сыстэмы забясьпечваюць уласьнікі маёмасьці, як рабочыя-саўладальнікі заводаў, гэтак і прадпрымальнікі, якім ёсьць што губляць, і якія маюць зацікаўленасьць у трывалым, устойлівым разьвіцьці грамадзтва й дзяржавы.

**Запісаў Уладзімір Пенада.**

ВОЙСКА

# ВАЙСКОЎЦЫ-ПАТРЫЁТЫ НЕ ПАТРЭБНЫЯ РЭСПУБЛІЦЫ

***Калі тысячы й тысячы беларускіх жаўнераў і афіцэраў у складзе адзінай і непадзельнай Савецкай арміі былі расьсеяныя па ўсёй прасторы былое імпэрыі, нават тады яны заставаліся дзецьмі свайго народу, па розных прычынах, але амаль усе імкнуліся вярнуцца на Бацькаўшчыну. Гэткая магчымасьць зьявілася нечакана на трагічным пераломе гісторыі, калі Беларусь падобна да іншых рэспублікаў колішняга СССР мусіць абараняць свой малады сувэрэнітэт.***

Некалькі соцень прафэсійных афіцэраў-беларусаў адмовіліся прысягаць на вернасьць іншым дзяржавам Садружнасьці й прапанавалі свае веды й досьвед Бацькаўшчыне. Высьветлілася, – Бацькаўшчына не гатовая іх прыняць.

Тлумачыць сэнс хрысьціянскае прыпавесьці аб вяртаньні блуднага сына кансэрватыўнай большасьці нашага Вярхоўнага Савету – усё адно, што сыпаць бісэр перад няўдзячнай аўдыторыяй, якая дагэтуль зьдзіўляе сьвет сваімі антыдэмакратычнымі законатворчымі практыкаваньнямі накшталт законаў пра падаткі й г.д.

Да гэткага недыпляматычнага выпаду супроць нашых заканадаўцаў мяне падштурхнула не жаданьне перафразаваць вядомы афарызм аб тым, што кожны народ варты таго ўраду, які ён мае (такім чынам вызначыўшы вартасьць нашых выбаршчыкаў), а імкненьне зьвярнуць увагу думаючай часткі грамадзтва на праблемы, якія ўзьніклі па прычыне антыбеларускае палітыкі парлямэнту, і найперш на праблемы войска як аднаго з найгалоўнейшых чыньнікаў дзяржаўнасьці.

Колькі сэсіяў запар і зь якой настойлівасьцю Апазыцыя БНФ сваім хворым на антыпатрыятызм «калегам» з былое КПБ-КПСС спрабавала давесьці неабходнасьць тэрміновага разгляду ўсяго комплексу вайсковых праблемаў. Але не! Рэспубліка ў чарговы раз пераканалася, што кансэрватары зь вялікай цяжкасьцю разумеюць голас розуму й гатовыя плюнуць на лёс дзесяткаў тысячаў сваіх суайчыньнікаў-вайскоўцаў.

16 студзеня ў Менскім Доме афіцэраў сабралося каля 300 афіцэраў ды іхніх сваякоў на абяцаную сустрэчу з былым міністрам былога Міністэрства па справах абароны Пятром Чавусам, якая не адбылася зь невядомае прычыны, і мне давялося выслухаць усе прэтэнзіі разьюшанага сходу. Калі каротка, дык сэнс іхні такі: Украіна, Расея ды іншыя рэспублікі прынялі рашэньне аб правядзеньні прысягі ў вайсковых часьцях, якія знаходзяцца на іхняй тэрыторыі, і, відаць, абсалютна нечакана для Вярхоўнага Савету Беларусі афіцэры-беларусы адмовіліся прысягаць ім, заявіўшы, што будуць служыць толькі свайму беларускаму народу й сваёй Айчыне – Рэспубліцы Беларусі. У адказ ім недвухсэнсоўна было паказана на дзьверы, а значыць на неабходнасьць пакінуць мейсца службы, вызваліць жытло й вяртацца дадому. Большасьць зь іх разам з жонкамі й дзецьмі засталася літаральна бяз сродкаў да існаваньня й даху над галавой.

Матар'яльны бок гэтае праблемы зразумелы, але галоўнае, на мой погляд, іншае – людзі, і тут неістотна, зь якіх прычынаў, пачалі асэнсоўваць сваю прыналежнасьць да народу Беларусі. Аднак у адказ на праяву патрыятычных пачуцьцяў яны пачулі штосьці накшталт: Рэспубліка ня ў стане прыняць вас.

Гэта пацьвердзіў мне й намесьнік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савету Беларусі па пытаньнях нацыянальнае бясьпекі, абароны й барацьбы са злачыннасьцю Леанід Прывалаў, які сказаў: «Я разумею гэтых афіцэраў і калі-б сам знаходзіўся ў іхняй скуры, сьціснуў-бы кулак і «вострым» словам адказаў кожнаму, хто параіў-бы мне вяртацца назад і самому вырашаць свае праблемы... І тым ня меней, пакуль мы ня ў стане прыняць іх. Мы разьлічвалі на абмен, але высьветлілася, што афіцэры зь іншых рэспублікаў былога СССР пакідаць Беларусь ня хочуць. А закону аб сацыяльнай абароне вайскоўцаў у нас пакуль няма, і невядома, ці будзе ён прыняты ў лютым».

Сёньня раніцой мне патэлефанаваў афіцэр з Закаўказскае вайсковае акругі й сказаў: «Суседняя часьць прысягнула на вернасьць Украіне й гатовая з боем прабівацца на Бацькаўшчыну да мейсца новае службы. ВС Украіны даўно прыняў законы, пра якія ў Менску толькі пачынаюць думаць. А над намі, беларусамі, усе сьмяюцца й гавораць: «Пайшлі з намі, нам патрэбныя прафэсіяналы».

А калі раптам збройны канфлікт, ці не давядзецца нам ваяваць супроць сваіх братоў?»

**Валеры Сядоў.**

